ГРОДНА
№2 (554),
24 студзеня 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Святы ад болю ў горле




*Праз заступніцтва св. Блажэя, біскупа і мучаніка, няхай Бог захавае цябе ад хваробы горла і ўсякай іншай немачы. У імя Айца і Сына, і Святога Духа.*

на старонцы 2

## 30-ая гадавіна смерці руплівых працаўнікоў нівы Пана




*Гэтыя выдатныя святары заклалі падмурак для адраджэння Касцёла ў нашай краіне, баранілі веру і ўмацоўвалі яе.*

на старонцы 4

## Год св. Юзафа ў Касцёле




*Заступнік на цяжкія часы і абаронца ад д'ябальскіх сіл, маліся за нас!*

на старонцы 6

# "ІДЗІЦЕ І АБВЯШЧАЙЦЕ", АБО ПРА МІСІЮ КАТАЛІЦКІХ СМІ




**24 студзеня ўзгадваем св. Францішка Сальскага, які ў далёкім XVI стагоддзі, размяшчаючы на платах і мурах будынкаў лісткі з кароткімі тлумачэннямі праўд веры, стаў заснавальнікам каталіцкай журналістыкі. Сёння ў сваім арсенале мы маем больш сродкаў: газеты, часопісы, інтэрнэт-парталы, радыё, відэа. Змяніліся спосабы, але засталася мэта – евангелізацыя.**

на старонцы 3

## "ТУТ ТАК ЦЁМНА, ШТО НЕ БАЧУ, КУДЫ ІСЦІ...".

# ГРАМНІЧНЫЯ СВЕЧКІ ЯК СІМВАЛ ХРЫСТА

**2 лютага Каталіцкі Касцёл адзначае свята Ахвяравання Пана. Прапануем узнавіць у памяці гісторыю свята, а таксама даведацца, навошта асвячаць грамнічныя свечкі, як імі карыстацца і што не патрэбна з імі рабіць.**




*Існуе павер'е, што грамніца зберажэ ад навальніцы*

на старонцы 7

СЛОВА РЭДАКТАРА

## Дарагія Чытачы!

*Літургічны ўспамін св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла, – патранальны дзень і свята ўсіх каталіцкіх журналістаў. Таму дазвольце з гэтай нагоды выказаць удзячнасць за ўсе добрыя словы і пажаданні, якія Вы адрасуеце нам.*

*Як галоўны рэдактар нашай дыяцэзіяльнай газеты ў патранальнае свята я ў чарговы раз усведамляю, што сёння на сродках масавай інфармацыі ляжыць вялікая адказнасць за евангелізацыйную місію. Мы прагнем выконваць гэтае заданне як мага лепш і як мага больш дасканала, стараемся ўкладваць у сваю штодзённую працу час і сэрца.*

*Праз каталіцкія СМІ дыяцэзіі па прыкладзе нашага заступніка, які па-наватарску для свайго часу выкарыстоўваў сродкі масавай інфармацыі, каб распаўсюджваць Добрую Навіну, мы пастаянна спрабуем дайсці ў Вашы дамы і сэрцы. Хочам несці дабро далей. Хочам дзяліцца ім з Вамі.*

*Св. Павел VI калісьці казаў, што каталіцкія газеты не павінны выдаваць навіны, якія толькі ўражваюць і наганяюць кліентаў, але мусяць несці дабро тым, хто іх чытае, выхоўваць чытачоў, каб думалі і выказвалі меркаванні.*

*Дык давайце працягваць несці дабро ў свет і змяняць аблічча зямлі – нашай гродзенскай зямлі!*



*кс. Jerzy Martinowicz*

КАЛЯНДАР

**25 студзеня**

***Свята Навяртання св. апостала Паўла.***

*Гэта адзінае свята ў літургічным календары, калі адзначаем навяртанне асобы. Справа ў тым, што яно змяніла свет – стварыла новую гісторыю. Заўзяты ганіцель хрысціян, руплівы фарысей у адно імгненне стаў адным з самых адданых і важных прапаведнікаў Хрыста. Гэтае свята дае нам зразумець, што нават зацяты грэшнік альбо вораг хрысціянства здольны навярнуцца і што кожны можа атрымаць ласку міласэрнасці.*

**27 студзеня**

***Успамін бл. Юрыя Матулевіча, біскупа.***

*Бл. Юрый Матулевіч нарадзіўся ў 1871 годзе ў в. Лугіне каля Марыямпале (Літва). Стаў прэзбітэрам Кельцкай дыяцэзіі. Працаваў у Варшаве і Санкт-Пецярбургу. Аднавіў Кангрэгацыю Ксяндзоў Марыянаў і заснаваў 2 жаночыя кангрэгацыі. У 1918–1925 гадах быў біскупам Віленскім, а потым апостальскім візітатарам у Літве, дзе і памёр у 1927 годзе.*

**28 студзеня**

***Успамін св. Тамаша Аквінскага, святара і доктара Касцёла.***

*Св. Тамаш нарадзіўся каля 1225 года ў Аквіне (Італія). Адданы на выхаванне бенедыктынцам у Монтэ-Касіна, ён вучыўся спачатку ў манастырскай школе, а потым ва ўніверсітэце ў Неапалі. Уступіў у ордэн дамініканцаў і далейшае навучанне праходзіў у Парыжы і Кёльне пад кіраўніцтвам св. Альберта Вялікага. Выкладаў філасофію і тэалогію. Напісаў выдатныя працы ў гэтай галіне. Памёр у абацтве цыстэрцыянаў Фасанова 7 сакавіка 1274 года.*

**2 лютага**

***Свята Ахвяравання Пана.***

*У нашай традыцыі гэтае свята носіць марыйны характар, таму яго называюць яшчэ святам Маці Божай Грамнічнай. Падобна таму, як Марыя прынесла Езуса ў Ерусалімскую святыню, так прыносіць святло вернікам. У касцёлах асвячаюць грамнічныя свечкі, якія, між іншым, даюць у рукі паміраючым, а таксама – на знак даверу Марыі – запальваюць у дамах і гаспадарках падчас бедстваў, асабліва падчас буры.*

**6 лютага**

***Успамін св. Паўла Мікі і паплечнікаў, мучанікаў.***

*Св. Павел Мікі нарадзіўся ў Кіёта (Японія) у 1564 ці 1566 годзе. Пасля ўступлення ў Таварыства Езуса ён плённа прапаведаваў Евангелле землякам. Падчас пераследу католікаў святара разам з 25-цю вернікамі схапілі і жорстка закатавалі, а затым даставілі ў горад Нагасакі, дзе яны былі ўкрыжаваны 5 лютага 1597 года.*

# СВЯТЫ АД БОЛЮ Ў ГОРЛЕ

працяг са с. 1

**Раз на год падчас Эўхарыстыі адбываецца адзін з самых цікавых абрадаў. Пасля заключнай малітвы святар запальвае 2 спецыяльныя свечкі. Затым рыхтуе вернікаў да ўдзелу ў адмысловым благаслаўленні, прамаўляючы: "Папросім Бога, які з'яўляецца крыніцай жыцця, аб здароўі горла і правільным выкарыстанні дару мовы, каб мы маглі прымяняць яго на хвалу Божую і на карысць людзям".**

*Кс. Юрый Марціновіч*



wikipedia.org

Гэтае благаслаўленне, прынятае ў духу веры 3 лютага, у дзень літургічнага ўспаміну св. Блажэя, біскупа і мучаніка, павінна абараніць ад усіх хвароб горла, а таксама ад інфекцыі і зубнога болю.

Да св. Блажэя молімся таксама аб здароўі сваёй мовы. Просім ахоўваць наш язык ад граху абгаворвання, плётак, асуджэння і здзекаў. Просім стаяць на варце нашых вуснаў і дапамагаць прамаўляць добрыя словы: суцяшэння, клопату, падбадзёрвання і любові. Звяртаемся да святога за дапамогай, калі хочам славіць Бога сваімі словамі. Св. Блажэй дапамагае нашай мове быць інструментам любові і дабра.

Няма гістарычных сведчанняў, адкуль пайшоў звычай благаслаўляць свечкі ў дзень літургічнага ўспаміну святога. Аднак існуе шмат розных легенд, асабліва ва Усходніх Цэрквах. Адна з іх сцвярджае, што сваёй малітвай св. Блажэй выратаваў ад удушша хлопчыка, у якога ў горле застрала костка. Яшчэ магчыма, што Блажэй, перш чым стаць святаром, быў лекарам.

Ён таксама з'яўляўся біскупам Себасты. Нягледзячы на пагрозы і заклікі да адступніцтва, біскуп Блажэй цярпліва зносіў катаванні і быў жорстка забіты за веру прыблізна ў 316 годзе, падчас праўлення імператара Ліцынія. Далучыўся да мучанікаў, якія па прыкладзе Езуса аддалі сваё жыццё за паству, давераную ім уваскрослым Панам.

**Св. Блажэй з'яўляецца заступнікам урачоў, пекараў, вытворцаў воску, ткачоў, гандляроў воўнаю і музыкантаў. Яго таксама шануюць як заступніка добрага надвор'я і апекуна буйной рагатай жывёлы.**

Звяртаючыся да заступніцтва святога з Себасты, мы благаслаўляем горла, разлічваючы на яго вылячэнне. Аднак трэба мець яшчэ вялікую веру. Веру, як у кіраўніка сінагогі Яіра, які так добра ведаў Езуса і так давяраўся Яго моцы, што чакаў абсалютна па-людску немагчымага: што Езус, калі толькі захоча, верне жыццё яго любімай маленькай дачушцы. Што ўрэшце стала фактам.

Трэба мець веру змучанай жанчыны, якая 12 гадоў пакутавала ад крывацёку і траціла ўсю маёмасць на лекараў, а ў выніку адчувала сябе яшчэ горш (параўн. Мк 5, 21–43). Тым не менш, яе натхняла надзея: была гатова змагацца да канца, пакуль нарэшце Езус не заўважыў яе веру і не выканаў жаданне сэрца.

Хрыстос сёння падобным чынам рэагуе на нас. Адразу ж устае і прыходзіць, калі хтосьці звяртаецца да Яго з просьбай. Без прамаруджвання кідаецца на дапамогу. І тады, і сёння чалавечая бяда і адданая вера, а таксама выказаныя просьбы глыбока кранаюць Езуса. Таму будзьма – без усялякіх перашкод і сумненняў – людзьмі вялікіх жаданняў і непахіснай надзеі. Не дазвольма засланіць ад нас ці адабраць вялікія дабраты, абяцаныя Панам.

# "ІДЗІЦЕ І АБВЯШЧАЙЦЕ", АБО ПРА МІСІЮ КАТАЛІЦКІХ СМІ

працяг са с. 1

Анґеліна Марцішэўская

Хутка будзе 5 гадоў, як пішу ў часопіс. Да сёння працую без журналісцкай тэарэтычнай базы, бо па адукацыі з'яўляюся філолагам. Тэмы мяне хвалююць самыя розныя. Спачатку, каб набрацца вопыту, закранала тыя пытанні, якія датычылі мяне асабіста. Цяпер, калі кожны нумар часопіса прысвечаны пэўнай тэме, стараюся прыдумаць нешта цікавае ў гэтым рэчышчы. Лічу, што важней за ўсё, каб самому было цікава тое, аб чым расказваеш чытачам.

Скажу шчыра, калі я толькі пачала працаваць у выдавецтве, не дужа верыла ў даўгавечнасць папяровых перыядычных выданняў, і ўвесь мой фокус быў скіраваны на інтэрнэт-сайты. Але пакрысе стала заўважаць, што папяровыя часопісы маюць попыт, таму яны ўсё роўна будуць існаваць, хоць іх тыраж і істотна знізіўся, калі інтэрнэт стаў больш даступным.

Менавіта пад уплывам інтэрнэт-сайтаў, якія могуць даваць людзям навіны нашмат хутчэй, чым "папера", прыйшлося істотна перагледзець характар напаўнення часопіса. Мы друкуем публіцыстыку, аналітыку, інтэрв'ю, часам рэпартажы і г. д. У фармаце папяровага часопіса людзям гэта цікава. Асабліва змешчаныя на вокладцы малітвы – надзвычай актуальна: можна скласці іх у буклет і заўсёды мець пры сабе. Форма часопіса – цудоўная, толькі вельмі важна дбаць пра яго выгляд, сачыць за тэндэнцыямі, выпрацоўваць свой стыль. Яшчэ папяровае выданне файнае і адрознае тым, што яго можна ўзяць у рукі, палістаць, працягла застававацца ў тэме, якая там закранаецца, паразважаць над ёю разам з аўтарамі, з аднымі згадзіцца, з другімі – не.



**Вольга Адамовіч,**
аўтар у часопісе
"Ave Maria"

Наша аўдыторыя – гэта каталіцкія вернікі, парафіяне. Часам здаецца, што большасць з іх – сталыя людзі, часцей нават жанчыны. Але гэта толькі да першага "рэзананснага" або нестандартнага артыкула. Тады ад сяброў чуеш, што і маладыя людзі заглядваюць на нашы старонкі. Што датычыць водгукаў, лісты ў рэдакцыю прыходзяць вельмі кранальныя, поўныя ўдзячнасці. Крытыкі звычайна не выказваюць: стараюцца не крыўдзіць, мне здаецца... Таму цешуся, што ўнутры нашага калектыва агучваюцца самыя розныя меркаванні і заўвагі – стараемся расці, выпраўляцца і дасканаліцца.

Свет імкліва рухаецца наперад. Прапаведнік, наследуючы Хрыста, таксама павінен знаходзіць такія спосабы камунікацыі, каб як мага больш эфектыўна даносіць нязменную праўду Евангелля да людзей. Таму і я вырашыў стварыць свой ютуб-канал, каб пры яго дапамозе як мага лепш выканаць наказ Хрыста "ідзіце і абвяшчайце".

Падаецца, абраны відэа-фармат камунікацыі са сваімі слухачамі адпавядае мэце максімальна добра. Зацікаўлены можа і пабачыць, і паслухаць, і нават уступіць у дыскусію з дапамогай каментарыяў пад відэа.

Да таго ж сацыяльныя сеткі спрашчаюць магчымасць адгукацца да тысяч людскіх сэрцаў. У касцёл у Расонах, дзе я служу, паслухаць Божае слова прыходзіць пару дзесяткаў чалавек, а ў сеткавай прасторы прамаўляю для 5-ці тысяч слухачоў. Без ютуб-канала я б не меў такой аўдыторыі.

Запісы на маім канале з'яўляюцца 2 разы на тыдзень: адно відэа ў нядзелю, другое – серад тыдня. Нядзельны запіс, як правіла, прысвячаецца Божаму слову, якое вернікі чуюць на нядзельнай св. Імшы. Думкі, агучаныя ў відэа, дапамагаюць паглыбіць разуменне Евангелля. Мне падаецца, што гэта правацуе слухача праяўляць зацікаўленасць да Божага слова. Безумоўна, я заўсёды прывязваю разважанні да жыццёвага кантэксту чалавека, да абставін, у якіх ён апынуўся. Выкладаю таксама Сацыяльнае вучэнне Касцёла, што сёння ў Беларусі вельмі важна: сацыяльнае навучанне вырашае праблемы, з якімі хрысціянін сустракаецца ў зносінах з іншым чалавекам, з грамадствам і з дзяржавай.



**Кс. Вячаслаў Барок,**
святар-блогер, уладальнік
аўтарскага канала на Youtube

Будзённы ж запіс звычайна прысвячаецца найбольш актуальным праблемам або з'яўляецца непасрэдным адказам на пытанні, якія атрымліваю ад слухачоў.

Бачу, што сёння ў беларускім грамадстве існуе вялікая патрэба ў слове праўды, што выходзіць з вуснаў прапаведніка. Сведчаць аб гэтым і водгукі, якія слухачы пакідаюць у каментарыях. Вось адзін з іх: "Добры вечар. Дзякуй за Вашу пазіцыю. Я не вялікі вернік, але з вялікім задавальненнем гляджу Ваш канал" (Яўген, Шаркаўшчына).

Зразумела, што з'яўленне лічбавых тэхналогій паўплывала на попыт на папяровыя выданні, аднак, на маю думку, папулярнасць газеты ніколі не знікне, проста яна не будзе такой шырокай, як раней. Галоўная адметнасць папяровага выдання ў нашыя часы – гэта тактыльны кантакт са Словам. Ёсць шмат людзей, якія дагэтуль любяць трымаць газету ў руках, дакрануцца да пэўнага сказа ці вывы. Ім так зручна. Да таго ж папяровыя выданні аблягчаюць працу навукоўцам ці людзям, якія проста цікавяцца гісторыяй – напрыклад, у архіве вельмі практычна карыстацца падшыўкамі газет.

Наш "Каталіцкі веснік" выдаецца з 2011 года, і за гэтае дзесяцігоддзе газета змянялася і працягвае змяняцца, каб адпавядаць патрэбам чытача. З другога нумара мы ўвялі падпіску на выданне, што дазваляе даставіць яго фактычна ў любое месца Беларусі. Пачыналі з 8-мі палос, а цяпер маем 16. Пастаянна з'яўляюцца новыя рубрыкі, у сваю чаргу менш актыўныя – адыходзяць. Напрыклад, на працягу доўгага часу ў нас дзейнічала моладзевая апытанка. Больш яе не робім, аднак замест гэтага з'явілася дзіцячая рубрыка. Ладзім таксама віктарыны. Апошнія 5 гадоў дзейнічае рубрыка "Газетная закрыстыя", якая карыстаецца папулярнасцю сярод чытачоў, бо праз яе могуць дасылаць інтэнцыі св. Імшы.



**Кс. Віктар Місевіч,**
галоўны рэдактар газеты
"Каталіцкі веснік"

З пазітыўных змен – таксама новыя людзі ў калектыве.

У рэдакцыю прыходзіць шмат лістоў ад вернікаў з падзякай за нашу працу – зваротная сувязь ёсць. Мы ў сваю чаргу ўдзячныя ім за водгукі, бо цалкам залежым ад чытачоў, не маючы дадатковага фінансавання. Не валодаем таксама ніякім адміністрацыйным рэсурсам, каб кагосьці прымусіць выпісваць газету. Аднак 10-гадовае існаванне "Каталіцкага весніка" паказвае, што яго з цікавасцю чытаюць, таму будзем старацца не здаваць пазіцыі.

На маю думку, галоўная асаблівасць інтэрнэт-рэсурса нашай дыяцэзіі заключаецца ў тым, што жыццё мясцовага Касцёла адлюстроўваецца ва ўсіх дробязях. Grodnensis.by – інфармацыйны партал, дзе можна знайсці навіны ад самай малой (напрыклад, пра дзіцячы парафіяльны пікнік у Сапоцкіне) да самай маштабнай (напрыклад, пра візітацыю Апостальскага нунцыя ў Гродне).

У калектыве ёсць таксама дасведчаная каманда відэааператараў і відэаграфаў, якія робяць адмысловыя ролікі для партала. Яны адлюстроўваюць жыццё нашага Касцёла ў самых розных фарматах: гэта і рэпартажы з яскравых падзей (напрыклад, святарскіх пасвячэнняў або Дыяцэзіяльных дзён моладзі); і праграмы, прысвечаныя важным у сям'і Касцёла асобам ды супольнасцям; і нават забаўляльныя ролікі (напрыклад, перадача "Дзеці пра...", у якой хлопчыкі і дзяўчынкі на свой дзіцячы лад разважаюць пра Божыя справы)... Усе відэа можна знайсці ў архіве партала.

На сайце таксама шмат публікацый. Ёсць і магчымасць праверыць, хто ў дадзены дзень адзначае імяніны ці ў якой парафіі адбываецца адпуст, або таксама пазнаёміцца з штодзённым разважаннем са штодзённага Евангелля. Наладжана і зваротная сувязь. Маеце пытанні – дасылайце! Святары, спецыялісты ў патрэбнай галіне, адкажуць на кожнае, а рэдакцыя апублікуе.



**Анґеліна Марцішэўская,**
была менеджэр і аўтар на інтэрнэт-партале Grodnensis.by

Галоўнае, што адрознівае радыё ад іншых фарматаў каталіцкіх СМІ, гэта непасрэдны ўдзел слухачоў у малітве. На супольных малітвах і робіцца галоўны акцэнт на "Радыё Марыя". Адны вернікі тэлефануюць у студыю і моляцца ў прамым эфіры, іншыя – далучаюцца да малітвы, слухаючы гэты эфір. У штодзённай праграме маем і ранішнюю малітву, і малітву аб пакліканнях да манаскага ды святарскага жыцця, і літанію да св. Роха, і малітву "Анёл Панскі". А 13-ай гадзіне заўсёды молімся Ружанец – па 2 асобы ў прамым эфіры на кожную таямніцу, а пасля адгаворваем літанію да Найсвяцейшай Панны Марыі і Вяночак да Божай міласэрнасці. Таксама заўсёды арганізуем трансляцыі св. Імшаў. У звычайныя дні – 2 анлайн-службы, у нядзелі і святы – 3 або 4.

"Радыё Марыя" ў Беларусі – гэта вялікі калектыў валанцёраў з усіх дыяцэзій: святары, кансэкраваныя асобы і свецкія вернікі. Таму, акрамя малітвы і св. Імшы, наша праграма прапануе розныя тэматычныя канферэнцыі, разважанні над Божым словам, сведчанні і навіны з усяго Касцёла краіны.

Прыкладаем усе намаганні, каб "Радыё Марыя" было даступна кожнаму, хто гэтага прагне. Калі ўзнікае такая патрэба, едзем у парафію і падключаем адпаведную хвалю, а пасля людзі самі актыўна ўдзельнічаюць у распаўсюджванні. Мы ў сваю чаргу рады заручыцца іх падтрымкай, бо існую не ахвяраванні.




**Кс. Аляксандр Фаміных,**
праграмны дырэктар
"Радыё Марыя"

Галоўная адзнака нашай дзейнасці – тое, што колькасць слухачоў пастаянна павялічваецца. Дзякуй Богу, сучасныя лічбавыя тэхналогіі дазваляюць адсачыць, наколькі ўзрастае аўдыторыя і якія эфіры найбольш запатрабаваныя. Таму чакаем запрашэнняў у Вашы парафіяльныя супольнасці – на фэсты ці без нагоды, каб вы маглі пазнаёміцца з намі, а мы – зрабіць адмысловы эфір.

## АКТУАЛЬНА

Ватыканскае радыё

### Сёлета 6 кардыналаў адзначаць 80-годдзе і страцяць права голасу пры выбары Пантыфіка

На пачатку 2021 года Калегія кардыналаў налічвае 228 іерархаў, з якіх 128-мі яшчэ не споўнілася 80 гадоў, што дае ім права ўдзельнічаць у магчымым канклаве. Сёлета шасцёра з іх пераступяць гэты парог.

Рашэнне аб страце права выбару Пантыфіка па дасягненні кардыналам 80-гадовага ўзросту прыняў папа Павел VI. Яно было абвешчана 21 лістапада 1970 года ў Апостальскім лісце "Ingravescentem aetatem".

На цяперашні час з 228-мі членаў Калегіі кардыналаў 105 прадстаўляюць Еўропу. З іх 53 іерархі могуць браць удзел у канклаве. З Паўночнай Амерыкі паходзяць 26 іерархаў, з якіх права голасу пры выбары Пантыфіка маюць 16; з Цэнтральнай Амерыкі – 9, з якіх 7 выбаршчыкаў; з Паўднёвай Амерыкі – 25, з якіх 14 выбаршчыкаў. Афрыканскі кантынент прадстаўляюць 25 іерархаў, з якіх 14 маюць права голасу на канклаве; азіяцкі – 27 кардыналаў, з якіх 16 выбаршчыкаў. Акіянію прадстаўляюць 6 кардыналаў, з якіх 4 выбаршчыкі.

### Навабранцы Швейцарскай гвардыі пачалі рыхтавацца да службы

Пачалася падрыхтоўка новых рэкрутаў Швейцарскай гвардыі. Базавы курс, які будзе працягвацца 2 месяцы, пройдуць 15 навабранцаў.

Гвардзейцы выконваюць ганаровы абавязак аховы Папы і Апостальскага палаца, а таксама межаў Дзяржавы Ватыкан. Афіцэры суправаджаюць Святога Айца ў замежных падарожжах. Асноўны склад Швейцарскай гвардыі – гэта рэкруты, якія праходзяць тэрміновую ваенную службу на працягу 26-ці месяцаў. Яны паходзяць з розных кантонаў Швейцарыі. 9 з іх з'яўляюцца нямецкамоўнымі, 4 – франкамоўнымі, 2 – італьянамоўнымі. Агульная колькасць гвардзейцаў складае 134 асобы.

### Папа зрабіў паслугі лектарату і акалітату даступнымі для жанчын

11 студзеня 2021 года быў абнародаваны motu proprio папы Францішка пад назвай "Spiritus Domini", згодна з якім жанчыны афіцыйна атрымалі доступ да паслуг лектарату і акалітату.

Апостальскім лістом "Spiritus Domini" Папа змяніў § 1 канона 230 Кодэкса кананічнага права, пастанавіўшы, што да ўзгаданых паслуг могуць прызначацца і жанчыны; для гэтага павінен здзяйсняцца прадпісаны літургічны абрад.

У новай фармуліроўцы канона, гаворыцца, што "свецкія вернікі, якія дасягнулі таго ўзросту і валодаюць тымі здольнасцямі, якія вызначаны дэкрэтам Канферэнцыі Біскупаў, пасля здзяйснення прадпісанага літургічнага абраду, могуць прызначацца на пастаянныя паслугі лектарату і акалітату".

### Малітоўныя інтэнцыі на люты

**паўсюдная**

Молімся за жанчын, якія з'яўляюцца ахвярамі насілля, каб грамадства аберагала іх, а іх пакуты былі заўважаны і выслуханы.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў усіх, хто лечыць і клапоціцца пра хворых, а таксама даў здароўе хворым.

# 30-АЯ ГАДАВІНА СМЕРЦІ РУПЛІВЫХ ПРАЦАЎНІКОЎ НІВЫ ПАНА

працяг са с. 1

Кс. Юрый Марціновіч

У студзені прыпадае 30-ая гадавіна смерці двух святароў: кс. прэлата Пятра Барташэвіча і кс. Фелікса Сарокі. З гэтай нагоды адбыліся св. Імшы з удзелам арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, біскупа Гродзенскага Аляксандра Кашкевіча і дапаможнага біскупа Гродзенскай дыяцэзіі Юзафа Станеўскага ў Жалудку (дэканат Шчучын) і Адэльску (дэканат Гродна-Захад), дзе з вялікай адданасцю служылі святары.

Нягледзячы на тое, што прайшло ўжо 30 гадоў з часу смерці ксяндзоў, у сэрцах многіх вернікаў жывуць словы, якімі яны звярталіся з амбоны. Людзі памятаюць іх навуку, прасякнутую Божай мудрасцю і глыбінёй святарскай душы, якой дзяліліся з кожным, каго сустракалі.

Сёння можна смела сцвярджаць, што гэтыя выдатныя святары заклалі падмурак для адраджэння Касцёла ў нашай краіне, у цяжкія гады ганенняў баранілі веру і ўмацоўвалі яе.



*Кс. Пётр Барташэвіч нарадзіўся 29 чэрвеня 1914 года ў Вільні. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў з рук арцыбіскупа Рамуальда Ялбжыкоўскага 16 чэрвеня 1940 года.*

*У пачатку 1949 года быў асуджаны на 25 гадоў лагераў, пазбаўленне грамадзянскіх правоў на 5 гадоў і канфіскацыю маёмасці. Спачатку яго накіравалі ў турму ў Оршы, адтуль – у лагер Старая Вятка ў Рэспубліцы Комі. Праз 2 гады быў высланы ў лагер Чуна ў Сібіры, адкуль вызваліўся 1 мая 1955 года.*

*Святар прыбыў у Адэльск, дзе займаўся моладдзю. У мясцовай школе не было піянераў і камсамольцаў, і ўлады абвінавацілі ва ўсім ксяндза. З-за гэтага ён быў вымушаны пакінуць Адэльск і распачаць працу ў Жалудку, дзе выконваў функцыі пробашча да смерці. Адышоў у вечнасць 13 студзеня 1991 года і быў пахаваны каля магілы сваёй маці.*



*Кс. Фелікс Сарока нарадзіўся ў 1910 годзе. У 1932–1938 гадах вучыўся ў духоўнай семінарыі ў Вільні. У 1938 годзе арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі ўдзяліў яму прэзбітэрскае пасвячэнне.*

*Быў прызначаны вікарыем у парафію ў Васількаве каля Беластока. Пасля ІІ Сусветнай вайны стаў пробашчам парафіі ў Парэччы недалёка ад Гродна. За катэхізацыю дзяцей і моладзі быў больш за 3 гады пазбаўлены савецкімі ўладамі г. зв. спраўкі.*

*Падчас пераезду кс. Пятра Барташэвіча з Адэльска ў Жалудок кс. Фелікс атрымаў дазвол на душпастырскую працу ў Адэльску. З 1963 года да самай смерці – 15 студзеня 1991 года – выконваў там функцыю пробашча.*

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ПОЛЬШЧА.** Скончыўся найбуйнейшы пасля вайны рамонт Марыяцкай базілікі ў Гданьску, які фінансаваўся ў асноўным Еўрапейскім саюзам. Рамонт, выдаткі на які склалі 19 мільёнаў 746 тысяч злотых, працягваўся больш за 3 гады і вёўся мясцовай парафіяй. У выніку праекта павялічылася турыстычная прывабнасць Марыяцкай базілікі, эстэтыка святыні і ўсяго Галоўнага горада. Асноўнай мэтай праекта было аднаўленне, кансервацыя базілікі і абарона яе ад заняпаду. Гэта дазволіла аднавіць першапачатковую каштоўнасць і захаваць культурную спадчыну храма для будучых пакаленняў.

**ТАНЗАНІЯ.** У краіне была створана дадатковая вышэйшая духоўная семінарыя, бо ў папярэдніх ужо не хапала месцаў. Гэта вынік пакліканневага буму, які пачаўся дзесяць гадоў таму і набірае абароты. У новай семінарыі, размешчанай у дыяцэзіі Кагама, на першы год фармацыі было залічана больш за 100 клерыкаў з цэлай краіны. Усяго новая структура зможа прыняць больш за 500 семінарыстаў. Большасць з іх – маладыя людзі адразу пасля заканчэння школы. Аднак развіццё акадэмічнага душпастырства спрыяе таму, што святарства абіраюць таксама асобы, якія навучаюцца на іншых факультэтах. Паступова павялічваецца таксама колькасць г. зв. сталых пакліканняў, але іх усё яшчэ адносна мала.

**ІРАК.** Каталіцкі Касцёл у Іраку апублікаваў лагатып і слоган запланаванага на 5–8 сакавіка візіту папы Францішка ў гэтую краіну. Постаць Пантыфіка паказана на фоне карты Ірака з выразна адзначанымі рэкамі Тыгр і Еўфрат, а таксама пальмай. У верхняй частцы, над сцягамі Ватыкана і Ірака, размешчаны голуб – сімвал доўгачаканага міру пасля некалькіх гадоў крывавага канфлікту. Вакол яго на арабскай, курдскай і халдзейскай мовах напісаны лозунг папскага візіту – цытата з Евангелля паводле св. Мацвея: “Усе вы – браты” (Мц 23, 8), якая спасылаецца таксама на нядаўнюю энцыкліку папы Францішка “Fratelli tutti”.

**ЯПОНІЯ.** Значна зніжаецца ўдзел вернікаў у св. Імшах у раёне Токіа, дзе з-за павелічэння колькасці захворванняў на COVID-19 урад увёў надзвычайнае становішча. Яно працягнецца да 7 лютага. Ахоплівае плошчу 3-ох дыяцэзій, у якіх пражывае больш за 170 тысяч вернікаў, з якіх больш за палову – іншаземцы. Вернікі сталіцы і суседніх прэфектур амаль не маюць магчымасці ўдзельнічаць у Імшы ў будні дні, але і ў нядзелю гэта дастаткова цяжка. Значна меншую прысутнасць вернікаў на Эўхарыстыі можна было заўважыць ужо на Калядны і Новы год.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ЛАБНА

Андрэй Вашкевіч



А. Вашкевіч

Парафіяльная святыня ў Лабне

Першапачатковa населены пункт існаваў як каралеўскі двор. Паводле Пісцовай кнігі Гарадзенскай эканоміі 1558 года, асноўную частку вялікакняжацкіх сялян-агароднікаў у двары Лабна і навакольных вёсках складалі праваслаўныя сяляне, што можна прачыцаць па імёнах: Трахім, Анупрый, Харытон, Панас, Мікіта, Сенька, Хама, Дзям'ян, Палікарп, Цімафей, Панкрат, Даніла, Парфён. Аднак сустракаліся і імёны каталіцкія – Станіслаў, Барталамей, Мацей.

У 1715 годзе кароль Аўгуст II, “жадаючы, каб хвала Божая памнажалася ў яго падданых”, заснаваў уніяцкую парафію ў Лабне. Да гэтага часу мясцовыя сяляне належалі да парафіі саборнай царквы ў Гродне (маецца на ўвазе Прачысценская царква), выбіраліся туды вельмі рэдка, нараджаліся і паміралі без адпаведных царкоўных абрадаў, “застаючыся амаль без ведання Бога, свайго стваральніка”. Гродзенскі эканом Мацей Грабоўскі пабудаваў святыню на некалькіх закінутых дзялянках лабненскіх сялян-агароднікаў, а кароль надзяліў яе 5-цю валокамі зямлі ў Навасёлках, Канюхах і пад самым горадам. Першым святаром у Лабне быў кс. Пётр Губінскі. У склад парафіі ўваходзілі вёскі Лабна (або Падлабенне), Агароднікі (цяпер Лабна-Агароднікі), Навасёлкі, Канюхі, Багатыры-Польныя, Навумавічы і Салаўі, Адамавічы (тут грэка-каталіцкай была толькі нязначная частка насельніцтва) і Пракаповічы.

У 1804 годзе пастаўленая ў часы Аўгуста II царква яшчэ існавала. Гэта быў невялікі драўляны храм, крыты гонтам, з адной маленькай вежачкай над галоўным фасадам і 4-ма вокнамі. Вакол працягвалі хаваць памерлых, паколькі асобная тэрыторыя пад могілкі яшчэ не была выдзелена. У храме размяшчаліся 3 алтары з абразамі Святой Тройцы, Маці Божай і Божага Нараджэння. Кнігі былі ўсходнеславянскай традыцыі: служэбнік, надрукаваны ў Супраслі, Актоіх, Евангелле, Трэбнік і Псалтыр. Святаром у царкве быў Юстын Мядзвеўскі, базыльянін. Уніяцкая парафія Лабна фармальна ўваходзіла ў склад Рымска-каталіцкай парафіі Адамавічы.

Пасля далучэння уніятаў да праваслаўя ў 1875 годзе на месцы старой царквы ўзвялі мураваную Пакроўскую царкву. Адбылося гэта каля 1882 года. Царква была тыповай “мураўёўкай” з вежайзваніцай і асноўным чатырохкутным аб'ёмам. Можна меркаваць, што канчаткова будаўніцтва святыні завяршылася каля 1887 года. Вядома, што на будоўлю было выдзелена 6929 рублёў, а працамі кіраваў член тэхнічна-будаўнічага камітэта Міністэрства ўнутраных спраў Жыбер.

Пасля дэкрэта аб рэлігійнай талерантнасці 1905 года большасць насельніцтва хутка перайшла ў каталіцтва, аднак праваслаўная парафія яшчэ трымалася да 1915 года. Тады немцы, якія акупіравалі нашы землі, зрабілі ў будынку склад. У такім стане ён прастаяў больш за 10 гадоў, ажно пакуль у 1929 годзе не была створана каталіцкая парафія з касцёлам Маці Божай Ружанцовай. Цяпер парафія належыць да Сапоцкінскага дэканата Гродзенскай дыяцэзіі.

Адно з самых цікавых месцаў у парафіі – могілкі. Тут пахаваны святары розных канфесій а таксама парафіяне – праваслаўныя і каталікі. Адна з найбольш цікавых магіл – пахаванне Якава Гейштара (памёр у 1872 годзе), апошняга грэка-каталіцкага дэкана Аўгустоўскага дэканата. Можна сказаць, што гэта быў апошні афіцыйны кіраўнік уніяцкай царквы ў Беларусі ажно да канца XX стагоддзя.

# КАСЦЁЛ І ІНТЭРНЭТ: СУР'ЁЗНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ

**У апошнія дзесяцігоддзі СМІ змяняюцца неверагодна хутка. Падаецца, мы толькі звыкліся са схілам друкаванай прэсы, а людзі ўжо часцей атрымліваюць інфармацыю з сацыяльных сетак, чым з навінавых сайтаў. Касцёлу цяжка паспяваць за такім тэмпам. Аднак ці праблема гэта? Ці увогуле так цяжка паспяваць за эрай інтэрнэту?**

*Арцём Ткачук*




*Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які неаднаразова падкрэсліваў важнасць СМІ для Касцёла, побач з супрацоўнікамі газеты "Слова Жыцця" падчас візіту ў рэдакцыю, 2018 г.*

### ПЕРМАНЕНТНАЕ ДУШПАСТЫРСТВА

Гэты тэрмін я прачытаў у адным з дакументаў Папскай рады па справах СМІ. Ватыканскія чыноўнікі падкрэсліваюць важнасць медыяў у пастаянным кантакце з вернікамі і клопаце пра іх духоўны рост. Логіка простая: католік з'яўляецца ў парафіі раз у тыдзень на адну гадзіну. Хрысціянскія медыі ж дазваляюць камунікаваць з вернікамі перманентна – пастаянна.

Відавочна, што каталіцкія супольнасці ў Беларусі актыўна працуюць у гэтым кірунку. Парафіяльныя чаты або старонкі акумулююць апошнія звесткі, просьбы, ідэі ці справаздачы. Характэрны прыклад – старонка парафіі св. Яна Евангеліста і св. Максімільяна Кольбэ ў Мінску – jan.by. Штотыдзень там з'яўляюцца навіны парафіяльных суполак, інтэрв'ю з мясцовымі вернікамі, тлумачэнні свят і справаздачы з падзей. Агулам на сацсеткі парафіі падпісана некалькі тысяч чалавек. Такім чынам, вернікі знаходзяцца ў пастаянным кантакце.

Асаблівасцю развіцця перманентнага душпастырства на парафіяльным узроўні з'яўляецца мінімалізацыя цэнзуры, афіцыёзу. Гэта дазваляе вернікам адчуваць сябе часткай Касцёла персанальна, задаваць пытанні і праз цікаўнасць да сваёй лакальнай супольнасці паглыбляць цікаўнасць да хрысціянскіх СМІ ў цэлым. Відавочна, што ў Беларусі ў гэтым кірунку яшчэ шмат павінна быць зроблена. Развіццё парафіяльных медыяў найчасцей носіць хаатычны характар: актывісты штосьці робяць, але гэтая дзейнасць не ўбудавана ў план развіцця парафіі.

### БЛОГЕРЫ

Калі парафіяльныя медыі скіраваны на развіццё кантакту супольнасці, то каталіцкія СМІ транслююць больш глабальныя тэмы. Аднак сёння кожны можа дзяліцца сваімі думкамі і меркаваннямі вельмі проста. Нездарма папа Францішак назваў інтэрнэт Божым дарам, які "дае нам сапраўды бязмежныя магчымасці для чалавечага яднання". Сёння, будуючы і шукаючы хрысціянскую пазіцыю адносна штодзённых навін ці здарэнняў, менавіта блогеры адыгрываюць ключавую ролю ў будаванні меркаванняў і пазіцый людзей.




*Валанцёры інтэрнэт-партала Гродзенскай дыяцэзіі Grodnensis.by падчас вечарыны "Раство з беларускай паэзіяй", 2014 г. Да супрацоўніцтва з рэдакцыяй можа далучыцца кожны!*

Ці хапае на беларускай ніве работнікаў-блогераў Пана? Падаецца, апошнім часам у нашай краіне іх з'яўляецца ўсё больш. Цікава, што ў гэтым працэсе менавіта свецкія вернікі вядуць рэй. Яны прымаюць удзел у абмеркаваннях пад навінамі з дзесяцітысячнымі аўдыторыямі, адстойваюць і тлумачаць карыстальнікам хрысціянскую пазіцыю. Для прыкладу, за інстаграмам каталіка Паўла Гадзінскага сочыць больш за 6 тысяч чалавек (гэта на тысячу больш, чым у акаўнта catholic.by), на інстаграм Асі Паплаўскай да яе сыходу ў манастыр было падпісана больш за 4 тысячы чалавек. Youtube каналы кс. Вячаслава Барка і блогера Згомеля Католік маюць 4,7 і 7,1 тысяч падпісчыкаў адпаведна.

Супрацоўніцтва парафій з каталіцкімі блогерамі можа быць сур'ёзным кірункам дзейнасці. Для прыкладу, сацыяльныя сеткі мінскай парафіі св. Роха вядзе Надзея Бука – каталічка і мастачка. Дзякуючы гэтаму толькі за інстаграмам супольнасці сочыць каля 2,5 тысяч чалавек. Арганізацыя сустрэч парафіяльнай моладзі з такімі людзьмі, рэклама іх кантэнту дазваляе хрысціянству прасочвацца ў стужкі сацыяльных сетак моладзёнаў. Нездарма арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч неаднаразова паўтараў: "Не ўяўляю сабе сёння евангелізацыі без мас-медыя".

### ЯК ЗАЦІКАВІЦЬ ЧАЛАВЕКА?

Журналіст Леанід Парфёнаў, каменціруючы спад гледачоў расійскага тэлебачання, калісьці сказаў: "Чаго яшчык глядзець, яго не для мяне робяць". Сумна, калі католікі не чытаюць каталіцкія СМІ, бо іх "не для мяне робяць". Менавіта гэтым тлумачыцца поспех хрысціянскіх блогераў. Карыстальнікі працей успрымаюць меркаванні, думкі ці разважанні простых людзей, чым сухую мову справаздач з афіцыйных каталіцкіх старонак.

Медыі дапамагаюць хрысціянам весці дыялог са светам. Як кажа ватыканскі дакумент "Aetatis Novae", "прысутнічаць актыўна і заўважна". Таму адзіная магчымасць зацікавіць нашага суразмоўцу – самім быць цікавым суразмоўцам. Слухаць, адказваць нестандартна, глыбока, з павагай, не ліць вады і не павучаць, не вешаць цэтлікі. Быць такім суразмоўцам, да гутаркі з кім хочацца вяртацца.

### У ЯКАСЦІ ПАДСУМАВАННЯ

У вялікай меры інтэрнэт перакладвае адказнасць за камунікацыю з "афіцыйных" каталіцкіх СМІ на вернікаў. Кожны можа дзяліцца сваёй верай, каменціраваць ці проста ставіць падабайкі годнаму кантэнту. Таму не варта рабіць такі моцны ўпор выключна на рэдакцыі вядомых каталіцкіх выданняў. Сёння кожны вернік можа быць маленькім хрысціянскім выданнем. Важна жаданне і разуменне значнасці апостальства. Кожнага з нас. У інтэрнэце таксама.

*Рэдакцыя*

Сваіх нябесных заступнікаў маюць людзі самых розных прафесій: урачы, пчаляры, маракі, гандляры, чыгуначнікі... Спіс тых, хто ў сваёй прафесійнай дзейнасці мае магчымасць звяртацца да св. апекуна, можна працягваць бясконца. Сярод іх і журналісты, якім, здаецца, асаблівым чынам патрэбна ўспамога і абарона нябеснага патрона. Бо менавіта супрацоўнікам СМІ выпадае складаная місія асвятляць праўду, менавіта яны часам рызыкуюць сваім жыццём у гарачых кропках, каб данесці нам чаканую навіну, менавіта яны дапамагаюць адстойваць свабоду, дадзеную Госпадам – свабоду думкі і слова.

Выдатна, калі журналісты па прыкладзе нябеснага заступніка, св. Францішка Сальскага, сумленна і згодна з Божай воляй выконваюць сваё служэнне. Дрэнна, калі прафесійныя навыкі выкарыстоўваюцца, каб паказаць толькі частку праўды або, будучы "майстрам слова", выдаваць хлусню за ісціну дзеля якойсьці мэты. У апошнім выпадку журналіст не толькі шкодзіць сваёй душы, але і ўводзіць у падман супольнасць, краіну, сусвет.

Малітвы патрабуюць усе журналісты: і сумленныя, і несумленныя, і свецкія, і каталіцкія. Бо ў кожным выпадку на кон пастаўлена праўда. А там, дзе праўда, там і Бог.

### МАЛІТВА ЗА КАТАЛІЦКІЯ СПРАВЫ Ў СМІ

**Божа, праз Твайго Сына, Збаўцу свету, Ты даручыў Касцёлу місію будаўніцтва Божага Валадарства на зямлі і пасlаў вучняў прапаведаваць Евангелле кожнаму стварэнню. Учыні, каб тыя, хто праз паслугу ў сродках масавай інфармацыі сведчыць пра Хрыста, напаўняліся Яго Духам, сілай і мудрасцю. Няхай стваральнікі каталіцкіх сайтаў (прэсы, фільмаў, радыё, тэлебачання і камп'ютэрных праграм) абвяшчаюць Езуса з мужнасцю і радасцю. Учыні, каб дзякуючы іх дзейнасці ўсе людзі пазналі Божую любоў і Яго план збаўлення, які закранае кожнага чалавека. Просім аб гэтым праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.**

### МАЛІТВА ЗА ТЫХ, ХТО РОБІЦЬ ЗЛО ПРАЗ СМІ

**Усемагутны Божа, ад Цябе паходзіць усё добрае і яго развіццё. Дазваляючы чалавецтву прасоўвацца ў галіне тэхналогій, Ты прагнеш, каб гэта паслужыла будаванню сапраўднай салідарнасці ў жыцці народаў. Распазнаючы і з удзячнасцю прымаючы ад Цябе шматлікія дары, дaручаем Табе ўсіх, хто не клапоціцца пра адзінства, але свядома ці несвядома спрые распаўсюджанню праз інтэрнэт (камп'ютэрныя праграмы, прэсу, радыё, тэлебачанне ці фільмы) зла, хлусні, ненавісці і граху. Даручаем Табе тых, хто здзяйсняе злачынствы і ўсялякае беззаконне, каб адкрылі свае сэрцы на Тваю ласку і сышлі з дарогі граху. Няхай зробяць гэта, разумеючы, што іх жыццё і справы павінны прыносіць Табе хвалу. Просім аб гэтым праз Хрыста, Пана нашага. Амэн.**

# "КАСЦЁЛАМ КІРУЕ СВЯТЫ ДУХ, І ТРЭБА ДАВЕРЫЦЦА ЯМУ". АРЦЫБІСКУП ТАДЭВУШ КАНДРУСЕВІЧ ПРА СЫХОД НА ПЕНСІЮ

**3 студзеня, у свой дзень нараджэння, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч сышоў на пенсію. Наведаўшы Гродна ўпершыню пасля вяртання на родныя землі, іерарх адказаў на пытанні чытачоў мясцовых каталіцкіх СМІ.**

Вольга Сяліцкая



*– Эксцэленцыя, ці адчувалі Вы малітоўную падтрымку з Беларусі, калі знаходзіліся ў Польшчы?*

– Так, я адчуваў магутную малітоўную падтрымку вернікаў Беларусі: не толькі католікаў, але і прадстаўнікоў іншых веравызнанняў. Гэта быў знак салідарнасці, які мне дапамагаў несці крыж выгнання з надзеяй на вяртанне, што і адбылося ў вігілію Божага Нараджэння. У выніку, я змог святкаваць яго разам са сваімі вернікамі.

*– Падзяліцеся, калі ласка, што адчувалі, калі даведаліся, што можаце вярнуцца на Радзіму.*

– Я чакаў гэтага моманту вельмі доўга, амаль 4 месяцы. Кожны дзень шукаў звесткі ў інтэрнэце. Чакаў, што зазвоніць тэлефон, і я пачую паведамленне: ужо можна вярнуцца. Самым цяжкім было якраз чаканне. Таму з вялікай радасцю ўспрыняў навіну ад нунцыя, што прыйшоў час вяртання. Мой настрой адразу заўважылі святары парафіі св. Антонія ў Сакулцы, дзе я знаходзіўся. Толькі збіраўся ўсё ім расказаць, як апярэдзілі мяне, пытаючыся, ці часам не вяртаюся, бо на маім твары "ўсё напісана".

*– Ці чакалі такога "падарунка" на дзень нараджэння ад папы Францішка – прыняцця адстаўкі?*

– Я выхаваны ў духу "Roma locuta, causa finita" ("Рым сказаў, справа вырашана"), таму не задаваўся пытаннем, ці прыме Папа маю просьбу аб звальненні з абавязкаў. Паводле кананічнага права, ва ўзросце 75 гадоў трэба звярнуцца да Святога Айца з просьбай аб вызваленні ад выконваемых абавязкаў. Як вырашыць Папа – гэта яго справа. Днём раней ці пазней – не мае значэння. Таму адстаўка ў дзень нараджэння мною ўспрымаецца нармальна. Ведаю шмат такіх выпадкаў у іншых краінах.

*– Ці цяжка сыходзіць з пасад Мітрапаліта і ардынарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі пасля доўгіх гадоў знаходжання на іх?*

– Не стаўлю сабе такога пытання. Прыйшоў час, і трэба сысці. Патрэбны маладыя, больш энергічныя біскупы з новымі ініцыятывамі. Іерархі змяняліся, змяняюцца і будуць змяняцца, але Касцёл застаецца. Трэба ўмець сысці ў час.

*– Як адчуваеце сябе на пенсіі? Ці яшчэ не "рассмакавалі" яе?*

– Пакуль што не "рассмакаваў". Хачу працягваць служыць людзям у душпастырстве. Мне падабаецца цэлебраваць розныя набажэнствы, абвяшчаць Евангелле. Цяпер буду мець больш часу для гэтага, бо адпадаюць кіраўнічыя і адміністратыўныя справы.

*– Ці змяніўся Ваш распарадак дня?*

– Не. Я ўстаю ў 6.30. Кароткая малітва. Абавязковая 30-хвілінная гімнастыка. Літургія гадзін і іншыя малітвы. Св. Імша. Снеданак. Рыхтую перадачу спраў новаму біскупу. Цягам дня – малітвы Літургіі гадзін, Ружанец, Вяночак да Божай міласэрнасці і іншыя. Часам еду на набажэнствы ў парафіі. Яшчэ засталіся некаторыя запланаваныя раней справы, якія стараюся рэалізаваць.

*– Цяпер у Вас будзе менш абавязкаў. Ці маеце якія-небудзь хобі?*

– Люблю спорт, асабліва футбол. Але пасля аперацыі на пазваночнік не магу больш ганяць мяч. Чакаю, калі можна будзе наведваць басейн, бо падабаецца плаваць. Люблю таксама тэалагічныя і асабліва гамілетычныя кнігі, на што цяпер буду мець больш часу.

*– Якія планы на будучыню? Дзе плануеце жыць: у Мінску ці ў Гродне? Можа, вернецеся ў родны Адэльск?*

– Пакуль што застаюся ў Мінску, а потым будзе бачна…

*– Як змагацца з несправядлівасцю, насіллем і беззаконнем у нашы часы?*

– Трэба жыць паводле Божага закону. У ім усё прапісана. Асабліва трэба памятаць пра запаведзь любові да Бога і бліжняга, а таксама аб акце пакаяння і жалю за грахі ды аб неабходнасці прабачэння. Але для гэтага трэба адпаведна выхаваць чалавека. Таму перад Касцёлам і грамадствам стаіць адказнае заданне выхавання маладога пакалення. І тут павінны актыўна развівацца адносіны паміж дзяржавай і Касцёлам. Касцёл мусіць мець большую прысутнасць у дзяржаўных СМІ. У навучальных установах неабходна выкладаць асновы рэлігіі як факультатыў. Дзяржава павінна падтрымліваць дзейнасць Касцёла, гарантуючы яго аўтаномію.

*– Ксёндз Арцыбіскуп, Вы ведаеце і, напэўна, адчуваеце любоў людзей да Вас… Дайце, калі ласка, параду, як па-хрысціянску прыняць Вашу адстаўку, а таксама новыя змены ў Касцёле ў Беларусі?*

– Шчыра дзякую за любоў вернікаў да сваіх пастыраў, у тым ліку да мяне. Я адчуваў яе заўсёды, але асабліва моцна – падчас свайго выгнання. За ўсё гэта вельмі ўдзячны людзям. Касцёлам кіруе Святы Дух, і трэба даверыцца Яму. Ён лепш ведае, якая асоба і ў які час павінна кіраваць Касцёлам. Так было заўсёды, так ёсць і цяпер. Усё на хвалу Бога!

ЗАДАЙ ПЫТАННЕ

## Як распазнаць момант, калі ўжо варта ісці да спаведзі з-за штодзённых грахоў?

grodnensis.by

*Касцельны наказ, а таксама Кодэкс кананічнага права прадпісваюць вернікам спавядацца прынамсі раз на год (параўн. ККП 920). Падобна і Катэхізіс Каталіцкага Касцёла заахвочвае заўсёды прымаць св. Камунію падчас удзелу ў Эўхарыстыі, абавязваючы вернікаў да гэтага як мінімум адзін раз на год, асабліва ў Вялікодны перыяд. Але, з іншага боку, Касцёл рэкамендуе прымаць св. Камунію ў нядзелю і святочныя дні або часцей, нават штодзённа (параўн. ККК 1389).*

*Разам з тым, неабходна памятаць, што кожны хрысціянін паклікаbны Богам да дасканаласці і да святасці: "Будзьце ж дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш нябесны" (параўн. Мц 5, 48). Таму трэба імкнуцца заўсёды прабываць у стане асвячальнай ласкі і не адкладаць паяднання з Богам і Касцёлам пасля смяротнага граху. Нават калі ўдаецца пазбягаць смяротных грахоў, нельга вельмі доўга трываць у грахах паўсядзённых. Пажадана спавядацца не радзей, чым раз у месяц, асабліва перад вялікімі касцёльнымі святамі. Напярэдадні важных жыццёвых падзей, напрыклад, па дасягненні паўналецця, перад прыняццем сакрамантаў сужэнства, канфірмацыі ці намашчэння хворых або таксама ў цяжкай хваробе можна здзейсніць генеральную споведзь – зрабіць рахунак сумлення з усяго жыцця або з яго працяглага перыяду і вызнаць усе грахі, якія ўдасца ўзгадаць.*

# ГОД СВ. ЮЗАФА Ў КАСЦЁЛЕ

працяг са с. 1

**Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі Святы Айцец Францішак абвясціў аб пачатку асаблівага Года св. Юзафа, адзначэнне якога скончыцца 8 снежня 2021 года. Дата не была выпадковай, бо 150 гадоў таму, 8 снежня 1870 года, бл. Пій IX устанавіў св. Юзафа заступнікам Каталіцкага Касцёла. Ён – той, хто клапаціўся пра Дзіцятка Езуса, – цяпер клапоціцца пра нас, г. зн. Містычнае Цела Хрыста.**

Кс. Юрый Марціновіч



Папа абраў гэтага святога заступнікам Касцёла дэкрэтам "Quemadmodum Deus", выдадзеным у асаблівы момант гісторыі. Касцёл перажываў тады вельмі складаны час. Другая палова XIX стагоддзя была перыядам прамысловай рэвалюцыі, міграцыі людзей з вёсак у гарады, распаўсюджвання ідэалогій, якія супярэчаць хрысціянству, ліквідацыі Касцёльнай Дзяржавы, якая існавала з VIII стагоддзя. Папе прыйшлося ратавацца ўцёкамі ў Гаэту, а пасля вяртання ў Рым ён абвясціў сябе вязнем Ватыкана. У многіх краінах Касцёл праследаваўся разнастайнымі рэжымамі, у тым ліку "Kulturkampf" – антыкаталіцкай палітыкай, якую праводзіў у Германскай імперыі Ота фон Бісмарк.

### ЗАСТУПНІК НА ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ

У апублікаваным Апостальскім лісце "Patris Corde" папа Францішак прызнаецца, што жаданне падзяліцца асабістымі разважаннямі пра асобу і дзейнасць св. Юзафа ўзмацнялася ў ім асаблівым чынам у апошнія месяцы, так моцна адзначаныя наступствамі пандэміі. Гэты час дазволіў адчуць, што "нашы жыцці сплецены і падтрымліваюцца звычайнымі людзьмі – часта забытымі – якія не трапляюць ні ў загалоўкі газет і часопісаў, ні на вялікую сцэну апошняга шоу, але, несумненна, запісваюць сёння вырашальныя падзеі на старонках нашай гісторыі".

Несумненна, цяперашні час няпросты для ўсіх народаў і нацый. І гаворка ідзе не толькі пра пандэмію каранавіруса, якая цалкам паралізавала ўвесь свет і пасадзіла людзей дома з-за страху заразіцца альбо з-за дзеючых абмежаванняў. Мы бачым, што ў многіх краінах узмацняецца барацьба з Касцёлам. Распаўсюджаныя ў той час ідэалогіі нараджаюць новыя, мэта якіх, перш за ўсё, – парадкаваць зачатым жыццём, брацаць пад сумненне сужэнства як сакраментальны саюз мужчыны і жанчыны, знішчаць сем'і. Гэта робіцца сёння праз гендэрную ідэалогію, якая ўводзіць "культурны пол", і ЛГБТ-рухі, якія яе прытрымліваюцца. Апаганьваюцца месцы культу, перапыняюцца літургіі, абняслаўліваецца Святое Пісанне і святыя вывы, ствараюцца іканаборскія творы і фільмы.

### АБАРОНЦА АД Д'ЯБАЛЬСКІХ СІЛ

Бачым, наколькі сёння, у 150-годдзе заступніцтва св. Юзафа, нам неабходна яго дапамога. Мусім неадкладна звярнуцца да яго, молячы аб выратаванні, каб абараняў нас, як Дзіцятка Езуса, ад д'ябальскіх сіл.

Святы Айцец, узгадваючы досвед апошніх месяцаў, падкрэслівае, што ў св. Юзафе ўсе могуць знайсці заступніка, памочніка і правадыра ў цяжкія часы. Гэты вялікі святы нагадвае, дадае Папа, што "ўсе, хто на першы погляд схаваны альбо знаходзіцца на «другой лініі», унікальным чынам актыўна ўдзельнічаюць у гісторыі збаўлення. Яны заслугоўваюць слова прызнання і ўдзячнасці".

Папа Францішак у сваім лісце назваў св. Юзафа бацькам з творчай адвагай. Яна праяўляецца перад абліччам цяжкасцей, перажываючы якія, "можна спыніцца і пакінуць поле бою альбо нешта прыдумаць". Глядзячы на жыццё св. Юзафа, мы бачым яго адказнасць за Дзіцятка Езуса і Яго Маці Марыю, а таксама веру і давер да Бога, дзякуючы якім заўсёды мог пераадольваць праблемы і складанасці ў магчымасці.

Таму няхай св. Юзаф нас падтрымлівае і вучыць, каб, перажываючы цяжкасці сённяшніх часоў, не сумняваліся ў прысутнасці Бога ў сваім жыцці і, даваючы Яму, клапаціліся пра найвялікшы скарб нашай веры, якім з'яўляюцца Езус і Марыя.

### АДПУСТЫ Ў ГОД СВ. ЮЗАФА

На гэты час Апостальская Пэнітэнцыярыя выдала дэкрэт, які заахвочвае скарыстаць адмысловыя адпусты пры звычайных умовах (сакраментальная споведзь, эўхарыстычная Камунія, малітва ў інтэнцыях Святога Айца і адмова ад граху).

**Такім чынам, поўны адпуст прадастаўляецца ўсім, хто:**

- на працягу не менш за паўгадзіны будзе разважаць над малітвай Панскай альбо прыме ўдзел у адным поўным дні засяроджання з медытацыяй пра св. Юзафа;
- па прыкладзе св. Юзафа здзейсніць справу міласэрнасці для цела ці душы;
- будзе маліцца св. Ружанцам у сем'ях і паміж нарачонымі;
- будзе штодзённа даваць сваю працу апецы св. Юзафа, а таксама заклікаць Рамесніка з Назарэта ў заступніцкіх малітвах за тых, хто шукае працу, каб маглі знайсці занятак, і каб праца ўсіх людзей была больш годнай;
- будзе адгаворваць Літанію да св. Юзафа альбо любую іншую малітву да яго;
- будзе маліцца ў інтэнцыі Касцёла, які пераследуецца знутры і звонку, а таксама ў інтэнцыі дапамогі ўсім хрысціянам, якія церпяць ганенні любога роду.

***Акрамя таго, можна атрымаць адпуст за прамаўленне любой законна зацверджанай малітвы альбо здзяйсненне іншага ўчынку набожнасці ў гонар св. Юзафа ў прысвечаныя яму дні:***

**19 сакавіка** – урачыстасць св. Юзафа, Абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі;

**1 мая** – успамін св. Юзафа Рамесніка;

**19 дзень кожнага месяца;**

**у кожную сераду** – дзень, асаблівым чынам прысвечаны св. Юзафу.

# “ТУТ ТАК ЦЁМНА, ШТО НЕ БАЧУ, КУДЫ ІСЦІ…”. ГРАМНІЧНЫЯ СВЕЧКІ ЯК СІМВАЛ ХРЫСТА

працяг са с. 1

Вольга Сяліцкая

### Кс. Уладзіслаў Сурвіла

*З IV стагоддзя на Усходзе свята Ахвяравання Пана ўрачыста адзначалася працэсіяй пад назвай “Сустрэча”, што ўказвала на своеасаблівую сувязь Старога і Новага Запавету. Традыцыя была ўсталявана ў памяць аб сустрэчы немаўляці Езуса Хрыста з прадстаўнікамі Старога Запавету – старцам Сімяонам і Ганнай-прарочыцай – у Ерусалімскай святыні. Гістарычнай асновай урачыстасці з’яўляецца апісанне гэтай падзеі, змешчанае ў Евангеллі паводле св. Лукі. Закон, згодна з якім кожны першынец – габрэйскі хлопчык – мусіў быць ахвяраваны Богу ў Святыні, быў усталяваны ў памяць зыходу габрэяў з Егіпта: вызвалення ад рабства, выратавання габрэйскіх першынцаў ад смерці. Гэта не азначала, што дзіця “аддавалася” на святарскую службу. Жэст быў сімвалічны – Богу прысвячалася тое, што з’яўлялася найбольшай каштоўнасцю для яго бацькоў. Прапанавалася скласці ў ахвяру пару туркавак альбо два маладыя галубы.*

*На свята Ахвяравання Пана асвячаюць васковыя свечкі. Яны лічацца сімвалам Хрыста, які прынёс святло вечнай Праўды ўсім народам. Грамніцы таксама сімвалізуюць Марыю – пакорную слугу Божую, поўную ласкі, у душы якой заўсёды гарэла святло веры, надзеі і любові.*

*Назва свечак звязана з традыцыяй запальваць іх падчас навальніцы і грому, каб аберагчы дом і гаспадарку ад маланкі. У такіх выпадках іх ставяць на акно альбо перад абразом Найсвяцейшай Панны Марыі, а калі побач узнікае пажар, выносяць на вуліцу, молячыся аб захаванні ад небяспекі. Асвечаныя грамніцы звычайна захоўваюць пры святой выяве. З запаленай свечкай ідуць насустрач святару, які нясе Найсвяцейшы Сакрамант да хворага, а ў момант смерці яе кладуць у руку паміраючаму.*

Людзі давяраюць Богу свае дамы ды хатніх жывёл і вераць, што грамнічная свечка абароніць ад навальніцы.



Людзі здаўна лічаць грамнічную свечку моцным абярэгам

### Тэрэза, Шчучын

*Падчас буры ў вёсцы бабуля запальвала адну свечку і ставіла на падаконнік, а другую дзядуля нёс у шклянцы ў хлеў. Такім чынам абараняялі ад навальніцы дом, сям’ю і ўсю гаспадарку.*

### Вераніка, Гродна

*Аднойчы ў Гродне была моцная навальніца, ураган, парывісты вецер. Па ўсім горадзе паваліла шмат дрэў, а на пабернардынскім касцёле пагнуўся крыж. Я запаліла грамнічную свечку – і ні адна галінка каля дома не зламалася, ні адна раслінка ў кветніку не пацярпела. Так нас абараніла Маці Божая.*

Часта грамнічную свечку даюць у рукі чалавеку, які памірае, верачы, што Хрыстос асвеціць шлях да Валадарства Нябеснага.

### Андрэй, Гродна

*Мая маці 5 гадоў змагалася з анкалогіяй. Калі яна памірала ў мяне на руках, прасіла даць свечку са словамі: “Тут так цёмна, што не бачу, куды ісці”. З грамніцай у руках і памерла.*

### Яніна, Парэчча

*У нас у вёсцы была традыцыя прыносіць грамнічныя свечкі на пахаванне. Потым іх запальвалі, калі маліліся Ружанец і “Анёл Панскі” за душу памерлага на працягу 30 дзён.*

Добрай традыцыяй з’яўляецца супольная малітва па вечарах, калі таксама можна запальваць грамнічную свечку.

### Ганна, Капцёўка

*Запальвалі грамніцу зімой на вячэрнюю малітву. Збіраліся ўсе разам і маліліся на ружанцы за сваю сям’ю, аб добрым надвор’і вясной і летам, аб добрым ураджаі.*

У даўнія часы ў людзей была боязь, што свечак можа не хапіць, таму іх асвячалі шмат. Гэтая традыцыя засталася да цяперашняга часу.

### Наталля, Падлабенне

*Асвячалі шмат свечак, каб было з запасам. Сядалі на воз, запрэжаны канём, і ехалі 5 км да касцёла ў Адамавічах. Пешшу не заўсёды можна было дабрацца: зімы былі марозныя і снежныя, аўтамабіля ў нас тады яшчэ не было. А свечкі выкарыстоўвалі таксама на пахаванні, запальвалі ў час навальніцы.*

Аднак, акрамя ўсяго вышэйзгаданага, ёсць таксама прыкметы і традыцыі, якія Каталіцкі Касцёл не ўхваляе. На жаль, іх шмат. Часам практыкуюцца ўсякія забабоны на дзецях (напрыклад, падпальваюць канцы валасоў), каб не баяліся навальніцы. Часта робяць непатрэбныя абрады пры пахаванні родных (напрыклад, “акрапляюць” воскам труну). Грамнічныя свечкі таксама выкарыстоўваюцца пры варажбе.

Са святымі рэчамі, прызначанымі для Божага культу праз асвячэнне або блаславенне, трэба абыходзіцца з пашанай. Імі нельга карыстацца для неўласцівых мэт, бо інакш могуць быць няддобрыя наступствы.

Лепш запаліць грамніцу, сабрацца сям’ёй і памаліцца да Маці Божай на ружанцы – гэта будзе найлепшае выкарыстанне асвечанай свечкі.

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***24 студзеня – III Звычайная нядзеля***
***Мк 1, 14–20***

Пасля таго, як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае і кажучы: “Настаў час і наблізілася Валадарства Божае: кайцеся і верце ў Евангелле”. Праходзячы ж каля Галілейскага мора, убачыў Сымона і Андрэя, брата Сымона, якія закідалі сеткі ў мора, бо яны былі рыбакамі. І сказаў ім Езус: “Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас рыбакамі людзей”. І, адразу пакінуўшы сеткі, яны пайшлі за Ім. Адышоўшы крыху далей, Ён убачыў Якуба Зэбэдэевага і Яна, брата ягонага, якія таксама сядзелі ў чаўне і ладзілі сеткі. І адразу паклікаў іх. І, пакінуўшы бацьку свайго Зэбэдэя ў чаўне з работнікамі, яны пайшлі за Ім.

### Пазнаваць і любіць Бога

*Вучэнне пра Божае Валадарства займае цэнтральнае месца ў навуцы Хрыста. У асобе Езуса Бог прыходзіць да людзей і хоча панаваць у іх жыцці. “Божае Валадарства наблізілася” настолькі, наколькі Усемагутны ў сваім Сыне наблізіўся да людскіх сэрцаў. Яно мае сваю спецыфіку і адрозніваецца ад любога зямнога царства. Унікальнасць выражаецца ў тым, што Валадарства Пана павінна пранікнуць унутр асобы, апанаваць яе думкі, пачуцці і жаданні, патрэбы і штодзённыя абавязкі – г. зн. зарадзіцца спачатку ў сэрцы чалавека, каб ён мог вечна карыстацца гэтым духоўным багаццем.*

*Каб так сталася, неабходна навяртанне асобы, якое немагчыма без глыбокай веры ў Евангелле. Канкрэтным выразам прысутнасці Божага Валадарства ў асобе з’яўляецца тое, што яна ідзе за Хрыстом, становячыся Яго вучнем праз перайманне паставы.*

*Не чакайма Вялікага посту альбо Адвэнту. Не трэба марудзіць з навяртаннем. Няхай кожны новы дзень, які дае нам Пан, стане магчымасцю наблізіцца да Яго, яшчэ больш пазнаць і палюбіць.*

*Пане Езу Хрысце, зрабі так, каб кожная раніца яшчэ больш набліжала мяне да Цябе, бо тады буду ўпэўнены, што я ў бяспецы і што знаходжуся ў Тваіх надзейных руках.*

***31 студзеня – IV Звычайная нядзеля***
***Мк 1, 21–28***

У горадзе Кафарнауме Езус увайшоў у шабат у сінагогу і навучаў. І здзіўляліся вучэнню Ягонаму, бо Ён вучыў іх як той, хто мае ўладу, а не як кніжнікі. І быў тады ў сінагозе чалавек, апанаваны нячыстым духам, які закрычаў: “Што Табе да нас, Езус Назаранін? Ты прыйшоў загубіць нас? Ведаю Цябе, хто Ты, Святы Божы”. Але Езус забараніў яму, кажучы: “Змоўкні і выйдзі з яго”. Тады дух нячысты, тарганууўшы яго і закрычаўшы моцным голасам, выйшаў з яго. І здзівіліся ўсе, так што пыталіся адзін у аднаго, кажучы: “Што гэта? Новае вучэнне, якое мае моц? Ён і духам нячыстым загадвае, і яны слухаюцца Яго”. І адразу разышлася пра Яго чутка па ўсёй ваколіцы Галілеі.

### Адкрыцца на Божую ласку

*Выганяючы нячыстага духа з апантанага чалавека, Хрыстос пацвярджае сваё боства. Паказвае, што як Бог Ён мае ўладу не толькі над матэрыяльным светам, але і над светам злых духаў, які пастаянна трывожыць, хвалюе, спакушае і кіруе на шлях зла і граху.*

*Вялікая памылка, якую робяць многія сучасныя людзі, – не толькі ігнараваць існаванне злога духа, але і наіўна думаць, што калі цёмныя сілы і дзейнічаюць у гэтым свеце, то праяўляюць сябе ў іншых, а не ў нас саміх. Вядома, гэта самападман. Таму што кожнаму з нас у пэўным сэнсе пагражае апантанасць злым духам.*

*Магчыма, мы не апантаны ў такой ступені, як няшчасны чалавек з Евангелля, але ў кожным з нас ёсць нейкая часцінка злога, якую павінны выкінуць са свайго сэрца з дапамогай Хрыста. Падобна таму, як Езус дапамог апантанаму чалавеку, Ён таксама гатовы нястомна дапамагаць нам. Дастаткова мець моцную веру і стаць пад прамяні Яго ласкі.*

*Пане Езу Хрысце, дапамагай мне адкідваць спакусы злога духа, заўсёды абараняць дабро і несці ў сэрцы толькі Тваю бясконцую ласку.*

## АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ЧЭСЛАВУ ПАЎЛЮКЕВІЧУ**

*з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Вы як душпастыр імкнуліся да мэты і стала адкрывалі дар і сэнс паклікання. Няхай здароўе і энергія спадарожнічаюць Вам на працягу доўгіх гадоў жыцця, прыносячы задавальненне і радасць ад усяго, чаго ўдалося дасягнуць, і дазваляючы ставіць яшчэ мноства новых мэт. Жадаем стойкасці і цярплівасці ў выкананні святарскай паслугі, патрэбных Божых дароў, апекі Найсвяцейшай Маці, сілы ў руках і чыстага агню ў сэрцы, які запаліць усё вакол шчасцем і радасцю. Мы ж асаблівым чынам ахінаем Вас нашай малітвай, каб Бог благаслаўляў і нястомна ўмацоўваў Вас сваёй ласкай ды спакоем.*

*Парафіяне з Росі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЛЕОНУ ЛАДЫШУ**

*з нагоды свят Божага Нараджэння і дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў, дароў Святога Духа, ласкавай дапамогі Маці Міласэрнасці. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю, надзеяй і верай. Няхай душпастырская праца прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе для Вас падтрымкай у складаныя моманты.*

*З памяццю ў малітве вернікі парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў в. Войстам*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ГЕДРОЙЦЮ**

*з нагоды імянін перасылаем найлепшыя пажаданні: моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, сілы, радасці, усмешкі, душэўнага супакою, поспехаў у душпастырскай працы, шмат Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа ды сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе шчаслівы і блаславёны, а дабрыня, вера і зычлівасць людзей заўсёды Вам спадарожнічаюць.*

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Перстуні і Галынкі*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ЯЎГЕНУ БАРЫСЮКУ**

*з нагоды дня нараджэння перасылаем мноства найлепшых пажаданняў: апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і святога заступніка, шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай Ваш святарскі шлях будзе шчаслівы і благаслаўлёны, а шчырая малітва і мудрыя, павучальныя казанні пранікаюць глыбока ў душы і цешаць людскія сэрцы. Будзьце святаром па прыкладзе Езуса Хрыста і надалей асвячайце людзей, даючы сведчанне сапраўднага хрысціяніна.*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі і Святой Сям'і*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ**

*з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння складаю сардэчныя пажаданні: здароўя, сіл і поспехаў у служэнні Богу і людзям. Няхай добры Езус, якога Вы выбралі, крочыць побач, а Маці Божая апекуецца і дапамагае ў цяжкія хвіліны.*

*Са шчырай малітвай Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ВАЛЕРЫЮ СПІРЫДОНУ**

*з нагоды імянін складаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, аптымізму, сіл, запалу і стойкасці ў рэалізацыі планаў і намераў. Няхай кожная хвіліна жыцця будзе шчаслівая, радасная і благаслаўлёная Богам. Жадаем шчодрых дароў Святога Духа, а таксама клапатлівай апекі Маці Божай і святога заступніка.*

*З павагай і ўдзячнасцю вернікі парафіі Мсцібава*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ БЕЛАНОСУ**

*складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх далонях, благаслаўляе кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляе шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці заўсёды мае ў сваёй апецы, каб Вы ў добрым здароўі маглі выконваць Божую волю.*

*Удзячныя парафіяне з Макараўцаў*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПАЎЛУ ГЕДРОЙЦЮ**

*з нагоды дня нараджэння і імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, а таксама шчырых і верных людзей побач. Няхай Вам заўсёды хапае сіл, запалу і стойкасці ў імкненні да мэты, а кожная хвіліна жыцця будзе радаснай і благаслаўлёнай. Няхай Пан адорыць Вас сваімі шматлікімі ласкамі, а Яго Маці заўсёды мае ў сваёй апецы.*

*Вернікі парафіі Галынка*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ МАР'ЯНУ ХАМЕНЮ**

выказваем словы шчырага жалю і спачування ў сувязі з адыходам у вечнае жыццё любімай мамы. Няхай міласэрны Бог як мага хутчэй прыме яе душу ў сваё Валадарства.

*Вернікі касцёла св. сястры Фаўстыны ў Субачах*

**ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ МАР'ЯНУ ХАМЕНЮ**

ў сувязі са смерцю мамы словы глыбокага і шчырага спачування, спалучаныя з малітвай,

*складаюць парафіяне з Шылавічаў разам з кс. Пятром і с. Элігіяй*

**ШАНОЎНАЙ СПАДАРЫНІ АРГАНІСТЦЫ ТЭРЭЗЕ**

ў сувязі са смерцю мамы складаем словы хрысціянскай падтрымкі і спачування. Вечны супакой дай ёй, Пане!

*Парафіяне касцёла Перамянення Пана ў Селіванаўцах і вернікі з в. Плоскаўцы*

## КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

Пасля малітоўнага развітання са спачылым Мітрапалітам Філарэтам, Ганаровым Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі, які адышоў у вечнае жыццё 12 студзеня, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч узгадаў, што той прысутнічаў падчас яго першай св. Імшы ў Беларусі як біскупа і шчыра радаваўся таму, што католікі нарэшце маюць свайго лідэра і што наступіць адраджэнне Касцёла.

Арцыбіскуп назваў Мітрапаліта Філарэта сваім сябрам і адзначыў, што навучыўся ў яго адкрытасці ў адносінах з іншымі веравызнаннямі і майстэрству весці дыялог з людзьмі розных поглядаў і перакананняў.




**рэлігійны часопіс**

Што думаць пра сённяшнюю беларускую рэчаіснасць, дзе бліжні падняў руку на бліжняга, а пакрыўджаны не дачакаўся справядлівасці? Звярнуцца да справядлівасці Божай, якая праяўляецца ў змаганні за праўду для іншага, за яго справы, свабоду, за яго шчасце. У гэтым плане з Божай справядлівасцю ўсё ясна – гэта клопат пра іншых людзей. Трэба несці бліжнім веру ўчынкамі, неабыякавасцю і адкрытасцю. І хоць мы цяпер перажываем цяжкі час, але гэта святы час. Бо з'яўляецца момантам адвочнага сутыкнення дабра і зла...




**беларуская рэдакцыя**

70 гадоў таму Добрая Вестка з Ватыкана пачала гучаць і распаўсюджвацца па-беларуску: у студзені 1950 года стартавала рэгулярнае вяшчанне беларускамоўнай праграмы на Ватыканскім радыё.

Ля яе вытокаў стаяў кс. Пётр Татарыновіч, каталіцкі святар з Піншчыны. Сядзіба Беларускай рэдакцыі паступова ператварылася ў месца сустрэчы знакамітых беларускіх дзеячаў у самым сэрцы каталіцызму. Тут пабывалі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, Янка Запруднік, а. Аляксандр Надсан, кард. Казімір Свёнтэк і іншыя. У 1980 годзе рэдакцыю наведаў і папа Ян Павел II.




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч прызначыў кс. Дзмітрыя Леўчыка, да гэтага часу студэнта Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне (Польшча), пробашчам парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Гервятах (Астравецкі дэканат) – адной з самых вядомых святынь Беларусі. Кс. Дзмітрый заменіць на гэтай пасадзе кс. Анатоля Маркоўскага, які скончыў служэнне ў Гродзенскай дыяцэзіі і вярнуўся на працу ў Віленскую архідыяцэзію (Літва).

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 221; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.